ТЫТУНЁВЫЯ КАНТРАБАНДЗІСТЫ



КАМУ ЯНЫ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

ЦІ ЗМОЖА АДЗІН

ЗМЯНІЦЬ КРАІНУ




СТАР. 6

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

16.02.12-22.02.12 г.

# ЧАМУ ЎЗНІКАЮЦЬ НОВЫЯ "АЧАГІ НЕСТАБІЛЬНАСЦІ"

Чарговы цяжкі працоўны тыдзень Аляксандра Лукашэнкі пачаўся з інспектавання Канстытуцыйнага Суда і Камітэта дзяржаўнай бяспекі.




*500 долараў сярэдняга заробку нам толькі трызняцца*

## ПЕРАМАГЧЫ "КАРТУ ПАЛЯКА"

Старшыня КС Пётр Міклашэвіч у сваёй справаздачы паведаміў, што разам з калегамі праверыў 444 законы, прынятыя Нацыянальным сходам. І — гэта проста цуд нейкі! — усе яны адпавядаюць Канстытуцыі. Таксама Міклашэвіч нагадаў пра барацьбу з "картай паляка", па выніках якой у заканадаўства ўнесены карэктывы. І рэзюмаваў: "Такіх шырокіх паўнамоцтваў не мае ніводны Канстытуцыйны Суд у Еўропе".

Але замест ордэна старшыня атрымаў "шпільку" на свой адрас. Лукашэнка скрытыкаваў КС, які мае "найшырэйшыя паўнамоцтвы": "Канстытуцыйны Суд у нас усё-такі не адыгрывае тую ролю, якую павінен".

Як паведамілі афіцыйныя крыніцы, падчас сустрэчы было агучана меркаванне пра магчымае вяртанне ў найбліжэйшы час да пытання стварэння інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека. У гэтым месцы людзі з добрай памяццю зарагаталі, бо абяцанне стварыць пасаду амбудсмена Лукашэнка запісваў яшчэ ў сваю перадвыбарную праграму ўзору 2006 года. Аднак шасці гадоў не хапіла, каб вырашыць гэтае пытанне.

> "Пакуль да масавых страйкаў справа не дайшла, аднак адміністрацыя мусіць лічыцца з незадаволенымі. Прынамсі, на БАТЭ ўжо паабяцалі павысіць заробак на 20%".

На наступны дзень Лукашэнка наведаў установу, якая ці не больш за астатнія займаецца ў нашай краіне правамі чалавека, — КДБ. Непасрэдна пра гутарку, што адбылася там, паведамлялася вельмі сцісла, аднак паралельна чэкісты прарэкламавалі праз інфармацыйныя агенцтвы свае дасягненні. У прыватнасці, КДБ пахваліўся тым, што выкрыў у 2011 годзе 23 замежныя шпіёны, але ж гэта досыць звычайны для спецслужбы занятак. А вось яшчэ адзін кірунак выглядае даволі нестандартным для спецслужбы: «на вало- и градообразующих предприятиях выявляются и совместно с госорганами и администрациями локализуются очаги нестабильности».

## А КОЛЬКАСЦЬ АЧАГОЎ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

Праўда, нягледзячы на дзейнасць КДБ і "пераадоленне наступстваў складанага перыяду ў эканоміцы", колькасць гэтых ачагоў апошнім часам павялічваецца. Цягам тыдня СМІ паведамлялі пра канфліктныя сітуацыі на пінскім прамыслова-гандлёвым аб'яднанні "Палессе", барысаўскім заводзе БАТЭ і баранавіцкім прадпрыемстве "Атлант". Пакуль да масавых страйкаў справа не дайшла, аднак адміністрацыя мусіць лічыцца з незадаволенымі.

*Заканчэнне на стар. 3*

З'ЯВА

## УЛАДЫ МІНШЧЫНЫ САСТУПАЮЦЬ ГРАМАДСКАМУ ПРАТЭСТУ?

У чацвер старшыня Мінаблвыканкама Барыс Батура паабяцаў вынесці генеральны план беларуска-кітайскага індустрыяльнага тэхнапарка ў Смалявіцкім раёне на грамадскае абмеркаванне. Сваю заяву галоўны «вертыкальшчык» Міншчыны агучыў на прыёме насельніцтва ў Смалявіцкім райвыканкаме.

«Я буду настойваць, каб індустрыяльны парк быў у Смалявіцкім раёне, не парушаючы ні экалогію, ні законныя правы жыхароў і дачнікаў. Гарантую: ніякага зносу не будзе, і размяшчацца тут будуць высокатэхналагічныя прадпрыемствы», — заявіў Барыс Батура.

Раней «Свабода» паведамляла пра шматлікія пратэсты дачнікаў і вясковых жыхароў Смалявіцкага раёна супраць размяшчэння на 80 гектарах, што прылягаюць да Нацыянальнага аэрапорта «Мінск-2», розных вытворчасцей, у тым ліку машынабудавання, біямедыцыны, бытавой тэхнікі і электронікі.

Людзі баяцца, што страцяць свае ўжо прыватызаваныя зямельныя ўчасткі, дамы, сады ды іншую маёмасць. Калектыўныя звароты з просьбамі перагледзець пытанне пра размяшчэнне тэхнапарка дачнікі са Смалявіцкага раёна накіравалі Аляксандру Лукашэнку, а таксама ў Палату прадстаўнікоў.

**РАДЫЁ СВАБОДА**

# ЯК ВЫ ЦЯПЕР БУДЗЕЦЕ ВІНШАВАЦЬ 14 ЛЮТАГА СВАІХ КАХАНЫХ?

У нашым эканамічна нестабільным жыцці ўсё меней застаецца магчымасцяў для свята. Тым больш прыемна, што суразмоўцы «ТіЦ» не думаюць пра сённяшнія свае нейкія матэрыяльныя складанасці, каб павіншаваць сваіх каханых з Днём Святога Валянціна.

**АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ, ПАЭТ:**

### «ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА — ПРАЦЯГ МАЙГО ДНЯ НАРАДЖЭННЯ»

— Дзень святога Валянціна ў нашай сям'і прысутнічае настолькі, наколькі 13-га ўдаецца перажыць мой дзень нараджэння. А потым усё, што застаецца няз'едзеным, нявыпітым, з радасцю з'ядаецца і выпіваецца. Калі хтосьці з гасцей не сыходзіць дамоў, то, безумоўна, прачынаючыся раніцай, мы адзначаем Дзень святога Валянціна. Гэта свята не большае, чым за савецкімі часамі было 8 Сакавіка. Мы не дастаткова глабалізаваліся, ці амерыканізаваліся. Любімым святам гэта не стала. Але калі людзі навокал віншуюць адно аднаго, то, канечне, радуемся і далучаемся да добрага настрою.

**ІРЫНА ХАЛІП, ЖУРНАЛІСТКА:**

### «АНДРЭЙ ЗАЎСЁДЫ ЎГАДВАЕ МАЕ ЖАДАННІ»

— Мімаходзь гэтае свята ў нашым жыцці прысутнічае: невялічкімі падарункамі, «сэрцайкамі» мы ўсё ж такі абменьваемся ў гэты дзень. Прычым я штогод імкнуся дарыць Андрэю што-небудзь асаблівае. А ён кажа: «Не трэба. Не марнуй час. Навошта на мяне траціць грошы? Дастаткова будзе проста шакаладу». А сам у той жа час думае, каб зрабіць мне нейкі сюрпрыз. Заўсёды ён раней за мяне можа здагадацца, аб чым я мару. Заўсёды тое, што хачу, я атрымлівала ў падарунак.

**ЗМІЦЕР ВАЙЦЮШКЕВІЧ, МУЗЫКА:**

### «ТАКІЯ СВЯТЫ РАТУЮЦЬ НАШУ ЭКАНОМІКУ»

— У мой каляндар Дзень святога Валянціна ўвайшоў, як і для ўсіх іншых. Я куплю сваёй жонцы кветкі. Эканоміка Беларусі функцыянуе толькі дзякуючы святам — п'юць, гуляюць, дораць, купляюць, беларускае ў тым ліку. І на гэтым трымаецца наша эканоміка.

**ВОЛЬГА АДАМОВІЧ, НАСТАЎНІЦА:**

### «ГЭТА ВЫДАТНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ ЗРАБІЦЬ ПРЫЕМНАЕ АБАІМ ЗАКАХАНЫМ»

— Заўсёды можна знайсці нагоду, каб зрабіць прыемнае сваім блізкім і любімым. Але калі з'яўляецца яшчэ адна нагода для гэтай прыемнай справы, дык чаму б яе не выкарыстаць? Бо насамрэч такіх свят, акрамя 23 лютага і 8 Сакавіка, няма. І таму няважна, быў той святы Валянцін насамрэч ці не. Гэта выдатная магчымасць для закаханых зрабіць адно для аднаго нешта незабыўнае. А калі ж яшчэ? Хіба толькі ў юбілей вяселля.

**АНТАНІНА ХАТЭНКА, КУЛЬТУРОЛАГ:**

### «КАБ ДАДАЦЬ ЯШЧЭ МУЖЧЫНСКУЮ МОЦ ПРАВАСЛАЎНЫХ ГРАМНІЦ!»

— У мяне дваістае стаўленне да гэтага свята — я сюды дадаю яшчэ праваслаўныя Грамніцы. Хоць я не дагматычна праваслаўная, але ўсё ж такі мае продкі стагоддзямі вызнавалі Грамніцы, якія стаяць зусім побач, 15 лютага. У мяне ўсё гэта змяшалася ў нейкі кангламерат. Я больш схільная да таго, каб вярнуліся хаця б нейкія элементы Грамніц, з вогненнай, мужчынскай сілай Перуна. Калі б гэтае свята гэтак жа ўшаноўвалася, то ў нас мо трохі больш сілы з'явілася б, ці мужчынскай энергіі ў прасторы. Але святога Валянціна не аспрэчваю, таму што вельмі высакародная легенда за гэтым стаіць. Яна мае сваю сілу. Як хутка гэтае свята прыйшло да нас і пачало ўкараняцца! Што гэта азначае? Што не была запоўнена ўнутраная чалавечая прастора. Людзі схапіліся за гэтае свята, бо яно нясе ў сабе нешта гуманнае, тонкае, светлае.




*Дзень Святога Валянціна трывала ўвайшоў у наша жыццё*

**ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ, БАРД:**

### «КАМЕРЦЫЙНАЕ СВЯТА НЕ ДЛЯ МЯНЕ»

— Мне здаецца, што я занадта стары. Каб гэтае свята ўвайшло ў маё жыццё, напрыклад, напрыканцы 80-х гадоў, то гэта была б іншая справа. У прынцыпе, для мяне 14 лютага нічога не азначае. Больш значным для мяне ёсць дзень 1 сакавіка, таму што гэта пачатак вясны. Але Дзень святога Валянціна — добрае камерцыйнае свята, вось толькі не для мяне. І ўсё ж віншую ўсіх, хто верыць у святога Валянціна! Магу нават працытаваць «санет Шэкспіра»:

*У дзень Святога Валянціна*
*На сыходзе дня.*
*Ты, паганая скаціна,*
*Палюбі міня.*

**НАТАЛЛЯ МАЦУК, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ:**

### «ГЭТА НАПАМІН АБ ТЫМ, ШТО САПРАЎДНАЕ КАХАННЕ ІСНУЕ»

— У кожнай пары закаханых ёсць свае пэўныя святы, традыцыі, нейкія свае мясціны. І таму гэты дзень для кагосьці можа з'яўляцца святам, а для кагосьці ён звычайны, нічым не адметны. І кожная пара сама вызначае, адзначаць яго ці не. Я пачала адзначаць гэтае свята толькі пасля разводу: маю разлучніцу звалі Валянціна. А ўвогуле, кожны чалавек марыць пра сапраўднае каханне, і гэтая дата — напамін пра тое, што яно існуе. І дзеля яго варта дараваць, шукаць, чакаць. Жыць, адным словам.

**АДКАЗЫ НА ПЫТАННЕ ШУКАЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ЧАМУ ЎЗНІКАЮЦЬ НОВЫЯ "АЧАГІ НЕСТАБІЛЬНАСЦІ"

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Прынамсі, на БАТЭ ўжо паабяцалі павысіць заробак на 20%.

І тут паўстае пытанне. Згодна з афіцыйнай версіяй, цяжкасці ў эканоміцы скончыліся, і пачынаецца перыяд выпраўлення сітуацыі. Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэдні заробак па краіне за снежань 2011 года вырас адразу на 62 долары. Чаму ж хваляванні ў працоўных калектывах робяцца ўсё больш прыкметнымі?

## ХУТКА МОЖАМ ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ ТАДЖЫКАМ

Падобна на тое, што нават палёгка, атрыманая дзякуючы зніжкам на расійскія газ і нафту, няздольная выратаваць лукашэнкаўскую эканамічную мадэль. Шматмільярдныя ашчаджэнні на танных энерганосьбітах, канечне, дазволілі ўладам трохі перавесці дух. Аднак не больш за тое.

Неэфектыўныя прадпрыемствы і раней існавалі дзякуючы дзяржаўным субсідыям. Цяпер урад кажа, што больш не будзе выдаткоўваць сродкі на падтрымку парткоў. Аднак усе гэтыя заводы-калгасы нікуды не падзеліся і, аказаўшыся без грошай, ператвараюцца ў "ачагі нестабільнасці".

А тым часам свой "прысуд" кіраўніку Беларусі вынес... статыстычны камітэт СНД (мусіць, там таксама атабарыліся шпіёны). У выніку 17-гадовага кіравання Лукашэнкі наша дзяржава сярод былых савецкіх рэспублік апынулася ў шэрагу найбяднейшых. Нават армяне цяпер зарабляюць больш, чым беларусы. І калі становішча ў Беларусі не зменіцца, то неўзабаве мы будзем зайздросціць таджыкам...

**Сярэдні заробак у снежні 2010-2011 гг.**

| | *2010* | *2011* |
|---|---|---|
| Россия | 863 | 981 |
| Казахстан* | 525 | 621 |
| Азербайджан* | 437 | 464 |
| Украина | 331 | 382 |
| Армения | 379 | 377 |
| Беларусь | 527 | 341 |
| Кыргызстан | 213 | 302 |
| Молдова* | 254 | 275 |
| Таджикистан | 109 | 130 |

*Крыніца: дадзеныя стакамітэта СНД*

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# БЕЛАРУСАЎ-ГАСТАРБАЙТАРАЎ УСЁ БОЛЬШ

Майму суседу-будаўніку Мікалаю надакучыў яго заробак у мільён рублёў у Чэрыкаве, і ён паехаў у Расію. А следам, як хутка даведаўся, і па гэтай дый іншым прычынах заціхла і ўсё наша чэрыкаўскае будаўніцтва.

## НЕ ПРАГАДАЎ

Такім чынам, сусед угадаў, калі варта было мяняць дыслакацыю. І вось цяпер у месяц зарабляе Ў ЭКВІВАЛЕНЦЕ 1200 долараў ЗША.

А сын яго, школьнікам яшчэ, займаўся ў нашым чэрыкаўскім фотагуртку. Потым скончыў Магілёўскі ўніверсітэт імя Куляшова, адпрацаваў у чэрыкаўскай школе настаўнікам два гады з заробкам у 600 тысяч рублёў ну, і канечне, кінуў тую школу, як толькі "адпрацаваў" дыплом. Да бацькі пакуль што не даехаў, "прытуліўся" ў Магілёве на адной з будоўляў, якая яшчэ не спынілася. Набіраецца вопыту і, як толькі падцягне кваліфікацыю, паедзе ў тую ж Расію.

Як бачым, у Чэрыкаве няма працоўнага месца з прыстойным заробкам для прадстаўнікоў ні маладога, ні старэйшага пакалення — ні рабочаму, ні інтэлігенту. Але можна сказаць, што да майго суседа лёс паставіўся яшчэ добразычліва, калі ўвогуле можна так назваць жыццё ў адрыве ад сям'і.

**ДА ВЕДАМА**

**Згодна з данымі даследавання, у Беларусь паступае недзе 1,3 млрд долараў ад эмігрантаў за мяжой — гэта каля 2% ВУП. Адзін з аўтараў гэтага даследавання, Аляксандр Лучанок, падкрэслівае: "Гэта істотная падтрымка нацыянальнай эканомікі".**

## БУДАВАЦЬ ТРЭБА ДОМА...

Вось і бацьку яшчэ аднаго майго выхаванца фотагуртка не абмінуў лёс "гастарбайтара". Заробкі на прадпрыемстве, дзе ён працаваў кіроўцам грузавіка, знізіліся, а сям'ю карміць трэба ды і дзецям адукацыю неабходна забяспечваць. І падаўся чалавек у "дальние края". І вось неяк бачу на занятках, што ў хлопчыка вочкі ззяюць. Аказалася вось што.

— Заўтра тата мой прыязджае!

— Ці надоўга? — пытаюся.

— Ды не, на месяц усяго. З Расіі, дзе працуе. Даўно дома не быў, але хоць месяц пабудзем разам…

— А што твой тата робіць у той Расіі?

— Кіроўцам на машыне працуе. Грузы розныя дастаўляе з аднаго горада ў іншы…

— А я думаў, што дамы будуе там, як многія іншыя нашы чэрыкаўляне…

— Будаваць дамы трэба дома! — раптам па-даросламу закончыў нашу размову мой юны субяседнік.

**Андрэй Юркоў, эканамічны аглядальнік:**

— У гэтай тэме, трэба прызнаць, некалькі складнікаў. Першае. Па вялікім рахунку, уладу задавальняе тое, што людзі не дурацьёй галаву, а самастойна шукаюць і знаходзяць выйсце з нашага кепскага эканамічна-сацыяльнага становішча.

Другое. Людзей ніякім чынам не варта ганьбіць ці коса паглядаць на іх за тое, што яны едуць некуды па заробкі. Яны ўсё робяць правільна. Мяжа адкрыта, дык чаму б не скарыстацца гэтай магчымасцю? Тым больш што ёсць спрыянне з боку Расіі для нашых суайчыннікаў. Там не толькі заробкі вышэйшыя, але і права на жыхарства можна дамагчыся, і пенсію расійскую зарабіць, якая з нашай пенсіяй непараўнальная. Такім чынам, адкрытасць гэтая цяпер працуе цалкам на карысць суседзяў. Але гэта не іх віна, праўда?..




*Рускую мову беларусы ведаюць, але ўсё роўна застаюцца гастарбайтэрамі*

Трэцяе. Для таго, каб павярнуць усё ў іншы бок, патрэбны рэформы, пра якія сто разоў сказана, але на якія наша ўлада няздольная. Рэформы патрэбны тыя, што закрануць уласнасць, пачацца яны павінны з прыватызацыі, а гэта першы крок да дэмакратыі, свабод і правоў чалавека. На гэта ўлада адважыцца не можа, як бачым, ужо шмат гадоў. А вось менавіта народная, шырокая прыватызацыя і людзей бы вярнула дадому, і рэформы паскорыла б, і эканоміку ў эфектыўны бок павярнула б.

Тут закон — прасцей не бывае: рыба шукае дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш…

**СЯМЁН ПАНІЗОЎЦАЎ, ВІКТАР ВОЙТ**

# КАМУ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ ТЫТУНЁВЫЯ КАНТРАБАНДЫСТЫ

"Паленне забівае" — такія жудасныя папярэджанні вытворцы змяшчаюць на кожным пачку цыгарэт. Але варта гэтаму пачку перасячы мяжу з Еўразвязам, як з забойцы ён ператвараецца ў шанц на лепшае жыццё. Для тысяч беларусаў памежжа "кантрабанда" — не ганебнае слова, а банальны бізнес, хоць і рызыкоўны.



Цыгарэты для многіх сталі паратункам ад крызісу

Рэйсы выхаднога дня — на літоўскую Вільню ці на польскую Кузніцу — сапраўдныя "кантрабандавозкі". Рэдка перасячэш беларускую мяжу і не напаткаеш у цягніку ці аўтобусе цётачку з добрымі вачыма, якая шэптам папросіць: "Пакецік не правезяцё?"

Розніца паміж еўразвязаўскімі коштамі на цыгарэты і беларускімі робіць іх нясушкай з залатымі яйкамі. За пачак Winston'а ў суседняй Вільні прыйдзецца аддаць 8 літаў (па курсе — каля 25 тысяч беларускіх). Аналагічны выраб у крамах сінявокай будзе ўтрая таннейшым — 7,5 тысячы. Розніца складае 17,5 тысячы, альбо 2 долары. За адзін рэйс можна было б атрымаць неабмежаваны прыбытак, калі б не адна перашкода — мытны кантроль.

На тэрыторыю Эўразвяза бяспошлінна можна ўвозіць толькі 2 пачкі цыгарэт. Аплата пошлін робіць цыгарэтны бізнес бессэнсоўным. І гэта вымагае вынаходлівасці ад кантрабандыстаў. Спектр хітрыкаў шырокі: ад нечаканых хованак да хабару. Але самы дзейсны спосаб — прыкінуцца звычайным турыстам.

## КАНТРАБАНДА НА АБЦАСАХ

Беларускія жанчыны не толькі спыняюць гойсаючых коней, але і трымаюць у сваіх руках цыгарэтны бізнес. Вядома, на побытавым узроўні. Ім лягчэй мімікрызаваць пад атачэнне — жаноцкае адзенне мае больш прасторы для варыяцый. І наогул, жанчыны на Беларусі адчайныя.

**Рамуальда Пашлянкова** часта наведваецца ў Літву да сваякоў. Дзяўчына ездзіць аўтобусам Мінск — Каўнас. Дзясяткі разоў яна была сведкай таго, як працуюць кантрабандысткі: яны сядаюць у Ашмянах групкай 4-5 чалавек і адразу пачынаюць рабіць хованкі. Дзяўчына прыгадала адну з такіх паездак:

*"Жанчыны адрозніваліся танным адзеннем, прычоскамі — гэта простыя людзі. З размоў я зразумела, што ўзровень іх дабрабыту даволі нізкі, сярод іх была нават настаўніца. Ролі ў жанчын размеркаваны: адна (галоўная) кіравала працэсам і сачыла, каб кіроўца нічога не заўважыў".*

Жанчыны адразу прапаноўвалі пасажырам чорныя пакеты на захаванне. Што не ўдалося раздаць, павязвалі пад адзеннем накшталт паясоў шахіда.

## ЯК РОБІЦЦА ЦЫГАРЭТНЫ "ПОЯС ШАХІДА"

У калготкі ўкладваюцца пачкі такім чынам, каб пакінуць свабодныя канцы для завязак. Каб пачкі не спаўзалі, іх фіксуюць вузламі. Прыстасаванне ладуецца на жываце альбо на нагах з дапамогай свабодных канцоў. Каб на мяжы нічога не западозрылі, зверху мусіць быць свабоднае адзенне.

Пакуль кіроўца ходзіць на перакур ды адзначаецца на станцыі, жанчыны робяць хованкі. У месцы, дзе звычайна ў аўтобусах туалет, можна схаваць пакетаў 5, у кожным з якіх ляжыць як мінімум 5 цыгарэтных блокаў.

Аднойчы хітруні нават здолелі пранесці на мяжы вялізны пакунак з кантрабандай прама перад носам памежнікаў. Побач з дзвярыма пункта памежнага пропуску ёсць уваход у аддзяленне банка. Жанчыны пакінулі пакет каля касы і прайшлі пашпартны кантроль, пасля чаго спакойна забралі пакет і вярнуліся ў транспарт.

Гэты рэйс для кантрабандыстак скончыўся добра: мытнікі забралі толькі некалькі пакункаў, якія знайшлі на багажных палічках. Гэтым разам на мяжы не сталі разбірацца, чый тавар, і ўсе задаволеныя паехалі далей.

## НЯЎДАЛЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ

"Дзе можна рэалізаваць партыю беларускага тытуню?", — запыталіся мы ў беларускіх студэнтаў, якія вучацца ў Вільні. На жаль, 5 эксперыментальных пачкаў чырвонага "Вайсроя" студэнтам не прыйшліся даспадобы. І знаўцы накіравалі нас на аўтамабільны рынак Гарунай — у 43-м боксе трэба было запытацца Валянціна. Таксама нас папярэдзілі, што нельга здаваць тавар менш чым па 4 літы.

> "Розніца паміж еўразвязаўскімі коштамі на цыгарэты і беларускімі робіць іх нясушкай з залатымі яйкамі".

Валянцін браць моцныя папіросы адмовіўся, а яго сусед па мянушцы Спрайт быў рады дапамагчы. Толькі даваў зусім смешныя грошы — усяго 3 літы за пачак. Доўга не згаджаліся, пакуль Спрайт не патлумачыў: "Сіні Вінстан па 4, а гэта ніколі не будзе па 4… І ўсё тут".

Спрайт прапанаваў пакінуць тавар на лізінг і, як сапраўдны бізнесовец, пачаў разважаць пра перавагу попыту над прапанаваннем.

"У нас у краме ніхто і не бярэ, — сказаў ён. — Прайдзіцеся па горадзе і звярніце ўвагу на смецце: усе пачкі "Прэм'ер", "Вайсрой" "Вінстан" альбо "Кэмэл". Усе бандэролі толькі беларускія. Калі б я паліў за 8 літаў, як у нас каштуе, то даўно б ужо кінуў, яшчэ гадоў 5 назад. І піць таксама".

## ГІСТОРЫЯ НА 200 ДОЛАРАЎ

З маёй каляжанкай, што жыве каля польскай мяжы, неяк здарылася амаль што драматычная гісторыя. На летніх вакацыях яны з сяброўкай вырашылі зарабіць. Напакавалі цыгарэтнымі блокамі ўсю машыну — здымалі панэлі, хавалі ў сядзенні. На мяжы паўсміхаліся: мэта паездкі — шопінг.

*"Пакуль даехалі да найбліжэйшага лесу, папсавалі процьму нерваў. Потым гадзіны дзве выцягвалі цыгарэты ды "збіралі" машыну назад,* — расказвае з захапленнем. — *У бліжэйшым горадзе здалі оптам. Агулам зарабілі за мінусам дарогі 400 доляраў — па 200 на чалавека".*

У народзе ходзяць гісторыі пра экстрэмальны кантрабандытызм вышэйшага гатунку: нібыта рыхтуецца адмысловы плыт з радыёмаячком ці з GPS-перадатчыкам. Яго спускаюць па рацэ, а самі перасякаюць мяжу звычайным парадкам. Далей сочаць па спадарожніку, дзе тое судна прышвартуецца. На хайтэк-кантрабандзе прыбыткі лічаць ужо тысячамі доляраў.

## ЦЫГАРЭТНЫ КАЛЬКУЛЯТАР

Самы высокі заробак, што прапаноўваюць працадаўцы ў Ашмянах, складае 1,5 мільёна рублёў, альбо каля 180 доляраў. Колькі трэба правезці кантрабанды, каб зарабіць такую суму?

Адзін кантрабандны рэйс па прыбытку можа быць раўназначны як мінімум 5 працоўным дням юрысконсульта ці муляра ў Ашмянах. Пра гэта сведчыць самы прымітыўны падлік.

На адным пачку, па мінімальных коштах, можна атрымаць 5,2 тысячы рублёў; на блоку — 52 тысячы, на 10 блоках — 520 тысяч. Адымаем кошт квіткоў — 48 х 2, атрымліваецца 328 тысяч, альбо 40 доляраў.



*Мытня не дае "дабро" кантрабандыстам, але…*

## ТРЭБА ЗМЯНШАЦЬ ПАДАТКОВЫ ЦЯЖАР

З пазіцыі вытворцы ў кантрабандзе беларускіх цыгарэт за мяжу няма нічога дрэннага, лічыць **эканамічны эксперт Антон Болтачка**.

— Прыгадайце момант, калі ўводзіўся ліміт па колькасці выездаў за мяжу на ўласным транспарце, калі былі страйкі на памежным пераходзе Брузгі, — кажа ён. — Пасля ўвядзення абмежаванняў аб'ёмы продажаў Гродзенскай тытунёвай фабрыкі рэзка ўпалі.

З пазіцыі грамадзян сітуацыя таксама прывабная. Антон Болтачка ілюструе яе вядомым анекдотам, у якім Лукашэнка здзіўляецца: "Беларусы атрымліваюць 200 доляраў, жывуць на 500, дзе яны бяруць яшчэ 300?" Эканаміст заўважае, што, паводле некаторых ацэнак, 52,6% беларускай эканомікі можна лічыць ценявой.

Кантрабанда перашкаджае жыць толькі дзяржаве, якая не атрымлівае напоўніцу падаткі і мытныя пошліны. Такім чынам, паводле падлікаў эксперта, бюджэт краіны недалічвае прыкладна 25% ВУП.

Эканаміст раіць вельмі простае выйсце: змяншаць падаткавы цяжар і рэгуляваць мытныя пошліны.

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**

### ДА ВЕДАМА

**У 2011 годзе беларуская мытня пералічыла ў нацыянальны бюджэт больш за 5,5 млрд. доляраў ЗША**

**Беларуская мытня ў поўным аб'ёме выканала ў 2011 годзе абавязацельствы па збіранні мытных плацяжоў для Расіі і Казахстана. Пра гэта было сказана на нядаўняй на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснікам старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Сяргеем Барысюком.**

**У нацыянальны бюджэт ад плацяжоў, сабраных мытнымі органамі Беларусі, у 2011 годзе пералічана больш за 27,5 трлн рублёў, што па сярэднім курсе мінулага года складае звыш 5,5 млрд доляраў ЗША. У разліку на аднаго мытніка паступленні ў дзяржаўную казну склалі больш чым 5,5 млрд рублёў.**

**У сувязі са змяненнем ставак пошлін у першай палове 2011 года ў Беларусь фізічныя асобы ўвезлі 254,5 тыс. легкавых транспартных сродкаў (за ўвесь 2010 год іх было ўвезена 192 тысячы). «Мытная служба забяспечыла афармленне ўсяго легкавога аўтатранспарту», — падкрэсліў Барысюк.**

**Паводле яго слоў, знешнегандлёвыя патокі апрацоўваюцца без змянення колькасці работнікаў мытных службаў. Час, неабходны для выпуску тавараў па мытных працэдурах, да канца 2011 года скараціўся з 55 хвілін да 15. Гэта дасягнута за кошт прымянення інфармацыйных тэхналогій. Вырасла доля выкарыстання электронных мытных дакументаў: у экспарце яна дасягае 82%, у імпарце — каля 50%. Да канца 2012 года плануецца забяспечыць ажыццяўленне ўсіх мытных аперацый з выкарыстаннем электронных мытных дакументаў, падкрэсліў намеснік старшыні ДМК.**

# ЧАКАЮЦЬ, КАЛІ ЗНОЎ ПАКЛІЧУЦЬ У ДЭПУТАТЫ…

## Еўрарадыё даведалася, ці збіраюцца балаціравацца старажылы парламента.

*"Трэба, каб людзі дамовіліся паміж сабой, потым паклікалі мяне і сказалі: "Як ты глядзіш на тое, калі мы цябе вылучым яшчэ раз?". Тады я дам адказ,* — гаворыць намеснік старшыні камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ **Анатоль Глаз**. — *А самому лезці... Бацькі мяне вучылі наперад не лезці. Хаця тут няма ніякіх сакрэтаў: да мяне з такімі запытамі ўжо прыходзілі. Пакуль што маўчу".*

Дэпутаты падтрымліваюць ідэю кіраўніка краіны пра "пераемнасць" — каб "старыя" дэпутаты былі ў новым парламенце. Бо для таго, каб разабрацца ў заканадаўчай рабоце, народнаму абранніку патрэбен... год, а то і паўтара!

*"Я па сабе ведаю: калі прыходзяць новыя людзі, як я прыйшоў у новае скліканне, то для таго, каб ва ўсім разабрацца, добры год патрабуецца, а то і паўтара. Змарнаваны час атрымліваецца",* — гаворыць **Мікалай Самасейка**, старшыня парламенцкай камісіі па заканадаўстве.

Старшыня камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і **Алег Вялічка** ўжо двойчы выбіраўся ў Палату прадстаўнікоў. Ён таксама чакае, калі выбаршчыкі паклічуць на гэтыя выбары: *"Калі выбаршчыкі палічаць патрэбным, значыць, яны мне выкажуць сваё меркаванне. Але сам я пакуль што не вызначыўся — найперш я сам для сябе павінен вырашыць гэта".*

Дэпутат **Валянціна Леаненка** прызнае, што сама такія пытанні не вырашае. Яна чакае прапановы, але не ад выбаршчыкаў, а ад партыі: *"Я ўсё жыццё займала такую пазіцыю: калі Радзіма сказала: "Трэба!" — камсамол адказаў: "Слухаюся!". Я сябра кампартыі. І калі кампартыя палічыць патрэбным рэкамендаваць мяне і вылучаць, тады я буду прымаць рашэнне. Пакуль што размова пра гэта не ідзе. Ды і няма яшчэ рашэння аб тым, калі будуць выбары, таму гэтае пытанне яшчэ ў стадыі асэнсавання".*

**Мікалай Самасейка** будзе вырашаць такое пытанне ў коле сям'і: *"Ведаеце, я для сябе гэта яшчэ не вырашыў. Сам буду прымаць рашэнне. Мо і сям'ю далучу да абмеркавання, але прымаць рашэнне буду сам".*

І ўсё ж Еўрарадыё знайшло народных выбраннікаў, якія больш не пойдуць у дэпутаты. **Уладзімір Майсюк** кажа, што двух дэпутацкіх тэрмінаў з яго хопіць: *"Дзякуй, я ўжо нават і спрабаваць не буду. Ну, 62 гады і ўжо два разы пабыў — шчыра кажучы, ужо неяк і няёмка".*

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# ДЗМІТРЫЙ УС НЕ ХОЧА ЖЫЦЬ У СТРАХУ

Экс-кандыдат у прэзідэнты бізнесмен Дзмітрый Ус верыць, што і адзін беларус пры вялікім жаданні здольны змяніць краіну. Многія нават лічаць яго, мякка кажучы, трохі вар'ятам...

Пра гэта і не толькі наша гутарка з Усам.

**— Вы спрабуеце ўнесці змены ў дзеючы Выбарчы кодэкс. У сувязі з гэтай ініцыятывай некаторыя называюць вас наіўным чалавекам. Вы на самай справе шчыра верыце, што атрымаецца ўнесці хоць нейкія змены ў гэты кодэкс?**

— Перада мной стаіць задача аб'яднаць разумных людзей, а тыя, хто нічога не хоча рабіць, а проста папракае... Гэта пустыя людзі, і на іх папрокі не крыўджуся. Я бачу, што беларусы раз'яднаны: няма ў іх агульных ідэй, і кожны цягне коўдру на сябе, пачынаючы ад палітыкаў і заканчваючы бізнесменамі. Уся праблема ў тым, што ў нас няма нацыі. Ёсць, як кажа Лукашэнка, насельніцтва. А я хачу бачыць тут менавіта нацыю, таму і спрабую нешта змяніць.

**— Ведаю, што вы звярнуліся ў Мінгарвыканкам з просьбай прадаставіць памяшканне для правядзення з'езда ініцыятыўнай групы па ўнясенні змяненняў у заканадаўства. Адказ ужо ёсць?**

— Пакуль што няма, але чакаю яго ў самы бліжэйшы час.

**— Вы казалі, што калі не дадуць памяшканне, то гатовы правесці з'езд нават на плошчы Бангалор.**

— Скажу так: канкрэтныя планы мы будзем абмяркоўваць па меры паступлення інфармацыі з Мінгарвыканкама.

**— Скажыце, усе апазіцыйныя палітыкі вас падтрымліваюць або хтосьці адмовіўся ад супрацоўніцтва ў гэтым плане?**

— Падтрымліваюць, ніхто не адмовіўся.

**— А вы не спрабавалі сустрэцца, напрыклад, з той жа Ярмошынай ці Лазавікам і не тое, каб паспрабаваць перацягнуць іх на свой бок, а хаця б растлумачыць, што робіце патрэбную справу?**

— На мой погляд, старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына — гэта вясельны генерал. Яна самастойна нічога не вырашае, проста агучвае тое, што выгадна і неабходна Лукашэнку. І чакаць ад яе нейкага разумення ці свабоды дзеянняў наіўна.

**— Выказвалася меркаванне, што не варта ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах да таго часу, пакуль Цэнтрвыбаркам узначальвае Лідзія Ярмошына...**

— Ад яе ўсё роўна нічога не залежыць. Нават калі на яе месца прыйдуць Лазавік, Пятроў, Іваноў ці Сідараў. Усё роўна лепш лічыць бюлетэні не стануць і колькасць фальсіфікацый не зменшыцца. Трэба мяняць сістэму прылады дзяржавы.

**— Лукашэнка нядаўна таксама абмовіўся, што быццам бы гатоў звярнуць сур'ёзную ўвагу на палітычныя рэформы...**

— Мне здаецца, гэта проста словы, папулізм. За 18 гадоў ён шмат чаго заяўляў. Але казаць — гэта адно, а рабіць — зусім іншае. Я не веру, што ён адважыцца на канкрэтныя палітычныя рэформы.

**— Як вы самі лічыце: трэба ісці на гэтыя парламенцкія выбары ці не?**

— Скажу так: будучы кандыдатам у прэзідэнты, я нават не пайшоў на выбарчы ўчастак, хоць мяне там чакала прэса, у тым ліку і небеларуская. Журналісты тэлефанавалі, пыталіся, прыйду я ці не, а я не бачыў сэнсу ў галасаванні...

**— Вы сябравалі з Мікалаем Статкевічам. Перапісваецеся з ім цяпер?**

— Я рэгулярна пасылаю яму тэлеграмы са словамі падтрымкі, каб ён мацаваўся і не думаў пісаць прашэнне аб памілаванні. А так, каб перапісвацца, то такога няма. Ён жонцы лісты піша.

**— Як думаеце, Статкевіч адважыцца пісаць прашэнне аб памілаванні?**

— Наколькі я ведаю, Мікалай гатоў пайсці да канца, але пісаць просьбы, мне здаецца, ён не стане. Лепш ахвяруе сабой.

**— Вы, дарэчы, досыць крытычна выказаліся аб тым, што Андрэй Саннікаў напісаў прашэнне на імя Лукашэнкі...**

— Чаму крытычна? Я проста думаў, што ён значна мацнейшы па натуры, чым было. Я ў свой час амаль месяц сядзеў разам з Дзмітрыем Дашкевічам у камеры. І ён мне ўвесь час казаў пра тое, каб я нават і не думаў пісаць ніякіх папер аб памілаванні, каб трымаўся. А сёння ён раптам апраўдвае Саннікава... Я нават падумаў, што гэта не яго словы. Мне здаецца, ён не мог так хутка памяняцца...

На мой погляд, чалавек, які хоча кіраваць краінай, павінен быць гатоў ахвяраваць сабой дзеля яе, дзеля людзей. А хто не можа, той не павінен увязвацца ва ўсё гэта і прэтэндаваць на першыя ролі.

**— Вы ведаеце, як жонка Саннікава Ірына Халіп пракаментавала вашы выказванні?**

— Іра Халіп — усяго толькі жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Саннікава. Яна не палітык. Як жанчына яна, натуральна, мае права на любыя эмоцыі, а вось калі яна пойдзе кандыдатам у прэзідэнты ці хаця б кандыдатам у дэпутаты, тады яе заяву можна будзе разглядаць больш сур'ёзна.

Разумееце, мы ўсе плылі ў адной лодцы, усе былі ў аднолькавых умовах, і ўсім было аднолькава цяжка. Але... Кожны выбірае свой шлях.

**— Зміцер, а вы не шкадуеце, што ў свой час увязаліся ў палітыку? Столькі непрыемнасцей яна вам прынесла...**

— Жыць увесь час у страху — гэта нашмат страшней за любыя непрыемнасці. А беларускія людзі жывуць у страху. Я хачу змяніць сістэму, разняволіць людзей, зрабіць так, каб яны паверылі ў сябе. Паверылі ў тое, што могуць на штосьці паўплываць, нешта змяніць. А жыць у страху, як жывёлы, асабіста я не хачу...

**— Жонка не ўгаворвае кінуць палітыку? Ведаю, што ў некаторых сем'ях ледзь ці не да разводу на гэтай глебе даходзіць...**

— Жонка, вядома, не надта радуецца, але да разводу ў нас не даходзіць, і перад жорсткім выбарам — «Або я, або палітыка!" — яна мяне не ставіць. Думаю, у нашай сям'і гэтага і не будзе.

**МАРЫНА МІТ**



*Дзмітрый Ус перакананы, што альтэрнатыва хутка з'явіцца!*

### ДА ВЕДАМА

**Дзмітрый Ус** быў кандыдатам у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах у снежні 2010 г. Затрыманы ў Мінску ў ноч з 19 на 20 снежня пасля масавай акцыі пратэсту. Ус быў асуджаны на пяць з паловай гадоў зняволення. Тэрмін адбываў у шклоўскай калоніі, яму там далі 2-ю групу інваліднасці. Экс-кандыдат у прэзідэнты быў вызвалены вечарам у 19:00 1 кастрычніка ўказам аб памілаванні

# «ЕЎРАФАРС-2012»: УСЁ КУПЛЕНА ДА НАС?

**Самы дарагі падарунак за ўсіх беларусак атрымала на Дзень святога Валянціна спявачка Алёна Ланская.**

26-гадовая артыстка стала пераможцай конкурсу "Еўрафэст" — нацыянальнага адборачнага тура на "Еўрабачанне-2012", што пройдзе сёлета ў Баку. Відавочна, Алёну не засмучаюць нават чуткі, што яе перамога была "набыта" загадзя з дапамогай высокіх сувязей і адміністрацыйнага рэсурсу. **"Тут і цяпер"** прапаноўвае дэталёва вывучыць, як і хто выбіраў сёлета беларускага ўдзельніка "Еўрабачання".

## НА ХВІЛІНАЧКУ

Першы званочак насамрэч празвінеў не сёлета, а як мінімум летась — падчас юбілейнага "Славянскага базару ў Віцебску", дзе гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў небясспрэчна быў аддадзены менавіта Ланской. У снежні 2011 года артыстка раптоўна была ўшанавана зноў, атрымаўшы званне заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь і стаўшы самай маладой з беларускіх артыстаў, хто носіць такі тытул. І нічога, што гэтая ўзнагарода таксама выклікала мноства пытанняў, бо згодна з Законам "Аб дзяржаўных узнагародах РБ" званне заслужанага артыста "прысвойваецца высокапрафесійным артыстам, рэжысёрам, балетмайстрам, дырыжорам, хармейстарам, музычным выканаўцам, якія працуюць у сферы мастацтва 10 і больш гадоў; артыстам балета з улікам спецыфікі іх жанру, якія працуюць 5 і больш гадоў; тым, хто стварыў высокамастацкія вобразы, спектаклі, кінафільмы, тэлеспектаклі, тэлефільмы, канцэртныя, эстрадныя, цыркавыя праграмы, музычныя, тэлевізійныя і радыётворы, што атрымалі грамадскае прызнанне".



*На Пятра Ялфімава хутчэй за ўсё "грашылі", што ён сабе гарантаваў удзел у Еўрабачанні-2009. А вось Ланская…*

## АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ РЭСУРС

Так, на мінулым тыдні інтэрнэт абляцеў сканаваны ліст упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама (спасылка тут: http://kp.by/daily/25833.5/2808004/). У ім кіраўнікам гарадскіх і раённых аддзелаў культуры, дырэктарам ССНУ было даручана распаўсюдзіць агіткі па ўсіх установах культуры і адукацыі, а таксама "разам са сваякамі і сябрамі падтрымаць Алёну Ланскую ў ходзе інтэрактыўнага галасавання" ў фінале "Еўрафэсту". На цалкам лагічныя абурэнні і роспыты журналістаў арганізатары конкурсуківалі на правілы, паводле якіх (пункт 25 арт.6 http://www.tvr.by/rus/eurovision2012.asp?pr=poloj) вобласці сёлета маглі выбраць і падтрымліваць, у тым ліку фінансава, сваіх фаварытаў сярод фіналістаў "Еўрафэсту".

Аднак чамусьці чатырох іншых фіналістаў — салістку Маладзёжнага тэатра эстрады Вікторыю Алешка, леташняга ўдзельніка конкурсу "Новая хваля" спевака Юзары і ветэранаў нацыянальнага адбору Гюнеш Абасаву і гурт "Litesound" — абласныя выканкамы пад сваё крыло не ўзялі. (Хоць няма пытанняў, каго без усякай указкі зверху падтрымлівалі, прыкладам, жыхары Баранавічаў — адтуль родам Гюнеш Абасава). Алёну ж празмерна актыўна піярылі чыноўнікі адразу ў некалькіх рэгіёнах — на Віцебшчыне, у родным Магілёве, а таксама ў Бабруйску, Асіповічах, Шклове. Ды яшчэ на ўсіх заводах холдынгу "Амкадор", старшыня савета дырэктараў якога, намеснік гендырэктара ЗАТ "Праммедінвест", член Савета Рэспублікі Аляксандр Шакуцін, з'яўляецца па сумяшчальніцтве заснавальнікам прадзюсарскага цэнтра "Спамаш", дзе ўжо сем гадоў працуе Алёна Ланская.

Асабліва вызначыўся ў службовай стараннасці Асіповіцкі аддзел адукацыі, у лістоўцы якога спявачка названа "дзяўчынай-сіратой, якая сваім талентам дайшла да фіналу конкурсу". Мясцовыя ідэолагі ці то зблыталі Алёну Ланскую (па пашпарце Алёну Міхайлаўну Ліпохіну) з іншым салістам "Спамаша", ці то скарысталі выраз дзеля большага эфекту — невядома, але гэтая агітка яшчэ больш падліла масла ў агонь скандалу з прадвызначанай перамогай на "Еўрафэсце". Не дзіўна, што 14 лютага, калі былі абвешчаны "сумленныя вынікі" галасавання гледачоў і журы, двое з пяці фіналістаў адмовіліся выходзіць на сцэну сталічнага Палаца спорту за суцяшальнымі прызамі і пазіраваць на фоне прэзідэнцкага букета "ўсім удзельнікам"...

*Заканчэнне на стар. 8*

### АФІЦЫЙНА

**По выніках галасавання журы і гледачоў (50/50) месцы ў "Еўрафэсце" размеркаваліся наступным чынам:**

**1. Алёна Ланская – «All my life» – 12 балаў;**
**2. Група Litesound – «We are the heroes» – 10 балаў;**
**3. Gunesh – «Tell me why» – 8 балаў;**
**4. Вікторыя Алешка – «Dream» – 7 балаў;**
**5. Uzari – «The winner» – 6 балаў.**

### ДА ВЕДАМА

**Беларусь удзельнічае ў "Еўрабачанні" з 2004 года. Найлепшым вынікам для нас стала 6 месца ў фінале Дзмітрыя Калдуна ў 2007 годзе, найгоршым — 23 месца ў паўфінале 2006 года Паліны Смолавай.**

**Паводле жараб'ёўкі, прадстаўніца Беларусі Алёна Ланская выступіць на "Еўрабачанні-2012" у Баку ў першым паўфінале 24 мая.**

**Алёна Ланская** (па пашпарце Ляпохіна) *нарадзілася 7 верасня 1985 года ў Магілёве. Закончыла Магілёўскі эканамічны прафесійна-тэхнічны каледж і Беларуска-Расійскі ўніверсітэт. З'яўляецца лаўрэатам музычных конкурсаў "Сарандэў-2008" (Балгарыя), "Кубак Еўропы-2009" (Расія), пераможцай "Atlantic Breeze-2010". Апошнім часам лёс таксама балуе Ланскую: спачатку грын-пры "Славянскага базару ў Віцебску-2011", пасля — званне заслужанай артысткі Беларусі.*

**МІЖ ТЫМ**

У «сіроткі, якая дасягнула фіналу ўласным талентам», паводле версіі Асіповіцкага райана, сапраўды няма маці - яна памерла неўзабаве пасля пераезду дачкі ў Мінск, - а вось тата Алены Ланской-Ляпохінай, поўны сіл і здаровы, гэтак жа як старэйшая сястра і пляменніца спявачкі, жыве ў Магілёве.

# «ЕЎРАФАРС-2012»: УСЁ КУПЛЕНА ДА НАС?

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*




## КАМЕНТАВАЦЬ НЕЛЬГА ПАДСТАВІЦЦА

Сёння практычна ўсе артысты і іх дырэктары ад каментараў наконт вынікаў “Еўрафэсту” адмаўляюцца. Акрамя, зразумела, пераможцы. Не жадаюць дзяліцца развагамі і члены журы конкурсу — нават на ўмовах ананімнасці. Зрэшты, якая тут ананімнасць: журы складалася з артыстаў Іны Афанасьевай, Аляксея Хлястова, Анатоля Ярмоленкі, Мікалая Скорыкава, прадстаўнікоў БТ Аляксандра Ціхановіча і Дзмітрыя Баранава, харэографа Аляксандра Мяжэннага, кампазітараў Яўгена Алейніка, Юрыя Вашчука і Леаніда Шырына (апошнія два — аўтары конкурснай песні Ланской “All my life”), таму дасведчаныя адразу зразумеюць, хто з названых мог бы “зліць інфу”.

І ўсё ж пэўныя высновы зрабіць можна, калі прыслухацца да меркаванняў людзей, што мелі дачыненне да сёлетняга конкурсу. Прыкладам, рэжысёр трансляцыі “Еўрафэсту” Глеб Шапо абмовіўся аб тым, што бачыў на сваім маніторы: першае месца па галасаванні гледачоў упэўнена заняў гурт “Litesound”, у два разы (!) апярэдзіўшы Ланскую.

Адзін з замежных назіральнікаў, аўтар і стваральнік найбольш аўтарытэтнага рускамоўнага сайта аб “Еўрабачанні” esckaz.com Андрэй Міхееў, наадварот, не выключае, што галасаванне адбылося “адносна сумленна”: “Упэўнены, што Ланская выйграла па галасаванні журы. А “Лайтсаўнд”, каб не стваралі канкурэнцыю, паставілі на 3 ці 4 месца. Прыплюсаваўшы галасаванне гледачоў, дзе, скажам, “Лайтсаўнд” першыя, а Ланская — другая, атрымліваем пераможцу — Ланскую. Пра тое, што паедзе на “Еўрабачанне” менавіта яна, ведалі ўсе, прычым даўно, таму на канцэрт выходзілі, не здагадваючыся, а ўжо ведаючы пра вынікі. Чаму не байкатавалі конкурс увогуле? Бо акрамя перамогі ёсць і іншыя мэты ўдзелу ў “Еўрафэсце”, а мінусаў у такім байкоце значна больш, чым плюсоў”.

Рэдактар музычнага вяшчання радыё “Мір” Юрый Цароў цалкам згодны з несправядлівасцю адміністрацыйнага рэсурсу пераможцы, але перакананы, што сёлета ўвогуле не было розніцы, каго адпраўляць на “Еўрабачанне”: “Музыка — гэта прадукт МОДЫ. Калі яна модная, яе будуць гатовы набыць за грошы, незалежна ад таго, у магазіне ці ў інтэрнэце. Праверыць песню на адпаведнасць еўрапейскім тэндэнцыям проста: дасылаеш на радыёстанцыі і бачыш — узялі ці не. Калі пачалі круціць — усё, трапілі ў плыню, калі не — значыць, у кансерваторыі штосьці не тое.

## СУБ’ЕКТЫЎНА

Сёлетняе “шоу” з пачатку і да канца выклікала дэжа вю, як і ў гады росквіту Пятра Ялфімава, Анжалікі Агурбаш і Руслана Аляхно: усё загадзя вядома, але ўсе чамусьці ўпарта робяць выгляд, што ім цікава. Сама ж арганізацыя — з бясконцым пераносам фінальнага канцэрта, незразумелым папярэднім адборам і непразрыстай схемай галасавання — падобная на тое, як роўна 50 год назад у Германіі адкрываўся першы ў свеце секс-шоп. Зроблена гэта было наўмысна напярэдадні Каляд, каб бюргеры не звярнулі ўвагу, а там і змірыліся з крамольным магазінам. Так і з “Еўрафэстам”: у Дзень усіх закаханых, напрыканцы рабочага дня, зусім не ў прайм-тайм у многіх беларусаў дакладна знайшліся больш важныя справы, чым дзве гадзіны глядзець праплачаны цырк.

Тым больш што вялізнае пафаснае мерапрыемства з гучнай назвай “Нацыянальны адбор на “Еўрабачанне” сёлета як ніколі аказаўся гульнёй у падкіднога дурня. Прычым на гэты раз, здаецца, дурнямі сталі ўсе мы — гледачы, артысты, запрошаныя і мясцовыя журналісты, а пераможцам — чалавек, які асабіста на мерапрыемства не з’явіўся.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**ДАРЭЧЫ**

## З ГАЛАСАВАННЕМ НА “ЕЎРАФЭСЦЕ” УСЁ Ж РАЗБЯРУЦЦА?

**Як стала вядома TUT.BY з крыніц у “Белтэлерадыёкампаніі”, у сувязі з неадназначным рэагаваннем на вынікі фіналу Нацыянальнага тэлевізійнага праекта “Еўрафэст”, які адбыўся 14 лютага, прэзідэнт Беларусі стварыў спецыяльную камісію, якой даручана разабрацца ў тым, наколькі аб’ектыўна быў вызначаны пераможца гэтага конкурсу.**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 16.02.12
Тыраж 299 экзэмпляраў